


# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №13 (29)
ВЕРАСЕНЬ 2015 ГОДА


У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ВАНДАЛЫ ЗНІШЧАЮЦЬ ПАМЯЦЬ

**Невядомыя вандалы зьнішчылі крыжы ў «віцебскіх Курапатах». Бясьследна зьніклі пяць крыжоў, усталяваных актывістамі на ўзьлеску каля вёскі Хайсы Віцебскага раёну. Мясцовыя старажылы згадваюць пра сталінскія расстрэлы ў гэтых мясьцінах, а прадстаўнікі ўладаў заяўляюць, што экспэрты знайшлі тут «фрагмэнты нямецкага кіцяля».**

Віцебскія актывісты час ад часу наведваюць пахаваньне невядомых ахвяраў, знойдзенае і добраўпарадкаванае летась. Сёньня яны ўбачылі, што зьніклі крыжы, усталяваныя імі год таму назад. Крыжы стаялі на ускрайках вялікіх ямін, у якіх дагэтуль відаць чалавечыя косткі.

Пра зьнікненьне крыжоў сябру КХП БНФ Яну Дзяржаўцаву, стваральніку грамадзкайініцыятывы«Хайсы»,сьпярша паведаміў тутэйшы ляснічы. Актывісты дужа зьдзівіліся, калі супрацоўнікі лягасу падпільнавалі іх на аўтастаянцы.

Яны паведамілі, што крыжоў ужо няма, затое на ўзьлеску паставілі фотафіксатары — каб пабочныя асобы не займаліся саматужнымі раскопкамі. Пад гэтымі «пабочнымі асобамі» службоўцы яўна мелі на ўвазе актывістаў, хоць тыя ніколі ня мелі намеру нешта раскопваць. Больш за тое: Ян Дзяржаўцаў запрасіў зь Менску адмысловцаў- археолягаў, каб яны паглядзелі на ямы з косткамі ды зрабілі нейкія высновы адносна таго, чые гэта могуць быць парэшткі.

На думку археоляга Мікалая Крывальцэвіча,якідаўнейрасьследаваў менскія Курапаты, ямы ў лесе раскапаныя досыць даўно, непрафэсійна, і верагодна — «чорнымі капальнікамі»:

«Ямы даўно капаныя, ужо аплыўшыя. Відаць, што працавалі непрафэсіяналы — адмыслоўцы капаюць па правілах, і ніколі вось так не кінуць косткі! Так, гэта рабаўнічыя ямы! І зь любога меркаваньня гуманнага косьці нельга так кідаць, іны мусяць быць пахаваныя! Ня мусіць быць ям у лесе. Любая мэтадалёгія патрабуе, каб месца раскопак мусіць быць рэкультывавана, прыведзена ў першапачатковы выгляд. І калі тут загінулі людзі, то на магілах трэба ставіць крыжы. Ці гэта могілкі, ці месца, дзе забівалі — вось такая брацкая магіла, але нябожчыкі мусяць быць ушанаванымі».

Здарылася наадварот: пастаўленыя актывістамі крыжы зьніклі, і нават вянкі і кветкі з сымбалічнай магілы пасканыя ў бліжэйшую яму. Паводле словаў ляснічага, гэта зрабілі прадстаўнікі пашуковага батальёну, які абяцаў запрасіць старшыня Мазалаўскага сельсавету Леанід Дубіна.

Аднак сьлядоў дзейнасьці пашукавікоў нідзе не відаць: ямы ў такім самым стане, як актывісты бачылі іх у чэрвені. Побач зь ямамі — фрагменты абутку, іх чамусьці не ўзялі на экспэртызу прадстаўнікі сьледчага камітэту, якія выяжджалі на месца па заяве актывістаў.

Калега спадара Мікалая, таксама археоляг Валянціна Вяргей упэўненая, што гэта даўняе грамадзянскае, а не вайсковае пахаваньне часоў мінулае вайны:

«Тут няма вайсковага абутку — ботаў. Затое шмат жаночага абутку, боцікі, галёшы... Хіба вайскоўцы галёшы насілі?»

Мікалай Крывальцэвіч зьвяртае ўвагу на спэцыфічнае месцазнаходжаньне костак: яны ляжаць палосамі, перасыпаныя жвірам. Такое ж навукоўцы бачылі ў Курапатах, калі расстраляных закідвалі зямлёй, а зьверху зноў хавалі людзей, забітых пазьней, і так у некалькі шэрагаў...

Пакуль актывісты і археолягі разглядалі ямы і абураліся тым, што невядомыя вандалы зьнесьлі крыжы, у лесе раптам зьявіліся двое міліцыянтаў. Адзін зь іх — участковы Аляксандар Недзьведзь — заявіў, што яны прыйшлі папярэдзіць людзей пра небясьпеку выбуховых прадметаў. Маўляў, у гэтых мясьцінах былі знойдзеныя старыя боезапасы, а таму актывістам «тут знаходзіцца непажадана». А вось адказу на пытаньне, куды зьніклі пяць крыжоў, усталяваных у памяць невядомых ахвяраў, ад супрацоўнікаў міліцыі атрымаць не ўдалося.

Не змагла адказаць на гэтае пытаньне і Кацярына Каралёва, загадчыца справамі Мазалаўскага сельсавету. Актывісты заехалі да яе пазьней, бо даведаліся, што мясцовым уладам дасланы адказ пра вынікі экспэртызы, зроблены па даручэньні сьледчага камітэту.

Спадарыня Каралёва адказу не паказала, але працытавала некалькі радкоў з высноваў экспэртаў:

«Знойдзеныя рэшткі кіцяля, і гэтыя рэшткі кіцяля ідэнтычныя складаным часткам нямецкага вайсковага адзеньня Нямеччыны. Гэта дае падставы зрабіць высновы, што пахаваньне ў лесе — часоў мінулай вайны. Як толькі досьледы скончацца, усё будзе зроблена. А вашая пазыцыя мне тут ясная, вы не давяраеце ўладам!»

Ужо год актывісты безвынікова патрабуюць, каб ахвяраў пахавалі па-чалавечы

Паказаць адказ сьледчага камітэту ў арыгінале супрацоўніца сельсавету не пагадзілася нізавошта. Гэтая акалічнасьць выклікала вялікія сумневы ў актывістаў, ці сапраўды існуе такая афіцыйная папера. У навукоўцаў таксама ўзьніклі пытаньні: чаму ні словам не згаданы абутак 30-х гадоў, раскіданы па лесе, і як можна зрабіць высновы паводле адзінай знаходкі — «фрагмэнтаў кіцяля». Тым болей, што месца, дзе яго знайшлі, вызначана як «ваколіцы вёскі Хайсы», нібыта экспэрты ніколі ня чулі пра геаграфічныя каардынаты ды іншыя спосабы фіксацыі знаходак.

На думку сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава, усё робіцца дзеля таго, каб пазьбегнуць шырокага грамадзкага розгаласу пра гэтую справу.

Прадстаўніца сельсавету назвала актывістаў«зацікаўленымбокам»,каторы «шукае якіх-небудзь кампраматаў». Між тым мэта сапраўды зацікаўленых прадстаўнікоў грамадзкасьці зусім іншая: каб была высьветленая гістарычная праўда і каб загінулыя пад Хайсамі людзі, хто б яны ні былі, знайшлі апошні спачын згодна з хрысьціянскім звычаем.

**«Радыё Свабода»**


Чытайце сайт Віцебскага раёна: http://vicebskreg.by


НАШЫ ЛЮДЗІ

## КАК КАРДИНАЛЬНО ИЗМЕНИТЬ СВОЮ ЖИЗНЬ

**Около тринадцати лет житель агрогородка Копти Витебского района Александр Данилов отработал юристом на свинокомплексе «Лучеса». Но в 2013-м на производственном объекте случилась вспышка АЧС.**

Пришлось искать новое место под солнцем. Александр решил в корне изменить жизнь и зарегистрировал крестьянско-фермерское хозяйство «Данилов А.И.». В качестве направления деятельности выбрал овцеводство.

В первую очередь потому, что для содержания овец не нужно больших капитальных вложений. Без проблем ему выделили 50 га земельных угодий под пастбище и сенокосы. Маточное поголовье породы «романовская» закупал на Витебщине, а баранов-производителей «прекос» и «тексель» приобретал на племпредприятии в Бресте. Учился новому ремеслу у коллег-фермеров, специалистов подсобного хозяйства ветакадемии, читал литературу. Когда в отаре стало более 20 голов, вышел в поле, где оборудовал стан. К слову, его охраняют четыре кавказские овчарки, также установлены камеры видеонаблюдения с выводом на домашний компьютер. До зимы фермер планирует завершить здесь строительство сеновала на 45 т и возвести новую кошару.

Пока Александр Данилов занимается наращиванием поголовья, к концу нынешнего года в отаре будет около 100 овцематок. А в перспективе намерен выйти на реализацию 500 голов овец в год. С основными работами по содержанию животных Александр справляется сам, но не обходится без помощи отца Ивана Афанасьевича, особенно в пору заготовки кормов. Кстати, в нынешнем сезоне поддержал фермера и Витебский райисполком, выделив 120 л дизтоплива.

По словам Александра Данилова, фермером стать несложно, главное – решиться.

**Сергей Ляшук**
**«Витебские вести»**

СПАДЧЫНА

## ЯКІ ЛЁС ЧАКАЕ ГАРАДЗІШЧА

**У зоне падтапленьня Віцебскай ГЭС на левым беразе Дзьвіны знойдзенае невядомае дасюль гарадзішча, якое, па ўсёй імавернасьці, ня ўнесенае ў сьпісы археалягічных помнікаў Віцебскага раёну.**

Гарадзішча знаходзіцца на высокім паўднёвым беразе Дзьвіны. Яно належыць да так званага мысавага тыпу гарадзішчаў і мае ўсе ўласцівыя такому тыпу элементы. Высунутая ў бок ракі берагавая строма, на якой месьціцца само гарадзішча з драўлянымі пабудовамі, давала магчымасьць кантраляваць вялікі ўчастак рачной даліны. Гэткае месцазнаходжаньне можна характарызаваць як стратэгічнае і лягічна матываванае.

З захаду і ўсходу гарадзішча абмяжоўваецца ярамі, а ад астатняй берагавай часткі аддзяляецца досыць высокім абарончым валам, перад якім яшчэ захаваліся абрысы рову. У часы ліхалецьцяў гарадзішча станавілася надзейным прытулкам для жыхароў вакольных паселішчаў. Элементы гэтага гарадзішча шмат у чым супадаюць з элементамі блізкага да яго гарадзішча Баронікі, што месьціцца на левым беразе ракі Лучосы, якое добра дасьледаванае археолягамі і знаходзіцца пад ахоўвай дзяржавы.

Як сьцьвярджае віцебскі краязнаўца Міхась Паўлаў, адкрыты археалягічны аб'ект, хутчэй за ўсё, належыць да днепра-дзьвінскай археалягічнай культуры і можа быць датаваны 6-7 стагодзьдзямі нашай эры. Аднак бяз пэўных навуковых досьледаў казаць пра гэта можна даволі прыблізна.

Пэўную заклапочанасьць выклікае тая акалічнасьць, што на захад ад гарадзішча бераг ужо цалкам зьменены інжынэрна-землянымі работамі, і пра далейшы лёс гарадзішча пакуль нічога не вядома. У сувязі з тым, што доступ да інфармацыі, зьвязанай з будаўніцтвам электрастанцыі, для грамадзкасьці абмежаваны, застаецца пытаньне: ці зруйнуюць гарадзішча, або ўсе работы спыняцца на самых подступах да яго?

**Віцебская вясна**

ПАМЯЦЬ

# ЧЫЕ ПАРЭШТКІ Ў ЛЕСЕ?

**Сябры грамадзкай ініцыятывы «Хайсы» кажуць – справа наўмысна замаруджваецца Віцебскім райвыканкамам.**

Чарговыя адказы, атрыманыя сябрамі грамадзкай ініцыятывы «Хайсы» зь Віцебскага раённага выканкаму і Віцебскага гарадзкога ваеннага камісарыяту, не дадалі ім аптымізму ў справе, зьвязанай са знаходкай фрагмэнтаў чалавечых парэштак у лесе пад Віцебскам.

Зь лістапада мінулага году прадстаўнікі грамадзкасьці Віцебшчыны ня могуць дамагчыся ад дзяржаўных структураў Віцебскага раёну выкананьня сваіх наўпроставых прафэсійных абавязкаў. Яшчэ ў траўні сябры ініцыятывы «Хайсы» атрымалі са Сьледчага камітэту Віцебскага раёну паведамленьне пра адмову ў распачынаньні крымінальнай справы. Марудзячы з разнастайнымі экспэртызамі, СК дагэтуль так і ня даў адказаў на галоўныя пытаньні: «Каму належаць знойдзеныя часткі чалавечых шкілетаў і ў які час у лесе зьдзяйсьняліся масавыя забойствы людзей?». Затое ў раённай газэце «Жыццё Прыдзвіньня» быў надрукаваны артыкул, аўтар якога паспрабаваў быў пераканаць грамадзкасьць у тым, што гэта марадэры раскапалі магілы ахвяраў нацызму.

Як кажуць сябры ініцыятывы «Хайсы», пазыцыя, выкладзеная ў мясцовай прэсе, і пазыцыя, занятая мясцовымі ўладамі, уражваюць сваёй абыякавасьцю да бязьвінна забітых: ані аўтар артыкулу, ані Мазалаўскі сельскі выканкам, ані Віцебскі раённы выканаўчы камітэт, ані іншыя кампэтэнтныя органы не праявілі ніякай ініцыятывы дзеля пошуку «чорных капальнікаў», якія разрылі амаль сорак месяцаў масавага пахаваньня.

Грамадзкія актывісты схіляюцца да думкі, што прамаруджваньне ў гэтай справе з боку ўладных структураў раёну альбо носіць наўмысны характар, альбо сьведчыць пра прафэсійную некампэтэнтнасьць ці незацікаўленасьць у высьвятленьні ўсіх акалічнасьцяў, зьвязаных з падзеямі трагічнай мінуўшчыны. Пераконваюць у гэтым і чарговыя адказы, атрыманыя надоечы зь Віцебскага аб'яднанага гарадзкога ваеннага камісарыяту і Віцебскага раённага выканаўчага камітэту за подпісамі выконваючага абавязкі ваеннага камісара Віцебску і Віцебскага раёну падпалкоўніка А. Асінаўка і намесьніцы старшыні Віцебскага райвыканкаму Ксеніі Карабач. З адказаў вынікае, што высьвятленьне акалічнасьцяў справы адсоўваецца на няпэўны час.

З гэтых адказаў актывісты даведаліся, што ў траўні пасьля атрыманьня інфармацыі зь Віцебскага раённага аддзелу Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь наконт факту выяўленых чалавечых парэштак ваенным камісарыятам супольна зь Віцебскім раённым выканаўчым камітэтам быў складзены інфармацыйны ліст. Згодна з заканадаўствам, яго даслалі ва ўпраўленьне па ўшанаваньні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяраў войнаў Узброеных Сіл для прыняцьця рашэньня аб правядзеньні пошукавых мерапрыемстваў. Аднак пачатак працы пошукавага батальёну будзе наўпрост залежаць ад выніку сьледчых дзеяньняў, якія, нягледзячы на адмову ў распачынаньні крымінальнай справы, тым ня менш вядуцца.

«Вонкава ўсе ўладныя структуры строга трымаюцца літары закону. Аднак, пагадзіцеся, тое, што амаль за цэлы год яны, хаця б на крок, не наблізіліся да высьвятленьня акалічнасьцяў рэзананснай справы, мусіць насьцярожыць ня толькі грамадзкіх актывістаў, але і ўсіх неабыякавых людзей. Бюракратычная непаваротлівасьць мяжуе з чэрствасьцю і адчужанасьцю ад праблемаў, стаўленьне да якія ва ўсе часы сьведчыла пра рэальны стан у любой дзяржаве ды грамадзтве. Калі казаць мякка, стан гэты даволі далёкі ня толькі ад элемэнтарных дэмакратычных стандартаў, але і ад звычайнага чалавечага стаўленьня да памяці продкаў», – кажа сябра грамадзкай ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў.

**Віцебская вясна**

ЗДАРЭННЕ

# ГОРЯТ ДОМА И СЕНО

**Уже кажется прошли самые сухие дни, дождливая погода властвует который день, а по-прежнему происходят возгорания личных домов и имущества граждан.**

6 сентября 2015 г. в 21-43 дежурному спасателей поступило сообщение о пожаре сена в деревне Копти Шапечинского с/С Витебского района. В результате пожара уничтожена 1 тонна сена на частном подворье. Причина пожара - поджог неустановленным лицом.

В этот же день на территории Витебской области зарегистрирован 1 торфяной пожар на площади 0,02 Га.

На следующий день в деревне Шарки Шапечинского сельского Совета Витебского района огонь уничтожил жилой дом, который принадлежит гражданину 1958г.р.

В результате пожара в доме, принадлежащем гражданке 1966 г.р., жительнице деревни Колеевцы Юньковского с/С Поставского района уничтожены кровля, потолочное перекрытие, повреждены стены.

Такая же беда постигла жителя деревни Мосорево Сиротинского с/С Шумилинского района. В результате пожара в доме, принадлежащем гражданину 1965 г.р., уничтожены кровля, потолочное перекрытие, повреждены стены.

Похозяйничал огонь в доме в деревне Сергеевщина Лепельского с/С Лепельского района. В результате пожара в доме, принадлежащем гражданину 1977 г.р., уничтожены кровля, потолочное перекрытие, повреждены стены.

В результате пожара уничтожен жилой дом в деревне Андреево Николаевского с/С Шумилинского района, в хозяйственной постройке уничтожены кровля, потолочное перекрытие, повреждены стены.

Следователи МЧС устанавливают причины пожара.

**А.Адамов**

КРЫМІНАЛ

# СТАЛО БОЛЬШЕ НАРКОПРЕСТУПЛЕНИЙ

**С начала года на территории Витебского района выявлено 11 наркопреступлений**

Вриод начальника Витебского РОВД Виктор Прокопович сообщил о стабилизации криминогенной обстановки с незаконным оборотом наркотиков в Витебском районе.

Во многом это заслуга декрета № 6 Президента Республики Беларусь «О неотложных мерах по противодействию незаконному обороту наркотиков», который был принятым в целях пресечения распространения наркомании и связанных с ней социальных явлений как угрозы обеспечения безопасности общества и государства.

— За восемь месяцев текущего года сотрудниками группы по наркоконтролю и противодействию торговле людьми во взаимодействии с другими службами и подразделениями Витебского РОВД на территории района выявлено 11 наркопреступлений. Оперативные действия правоохранителей позволили ликвидировать канал поставки наркотических средств и выращивания высококачественной конопли, а также изъять из незаконного оборота крупную партию марихуаны. К административной ответственности за нарушение требований Декрета № 6 привлечены 13 лиц, допускающих немедицинское потребление психотропных веществ, их аналогов, токсических или других одурманивающих веществ, — привел факты целенаправленной работы по противодействию незаконному обороту наркотиков Виктор Прокопович.

Он напомнил, что Декрет № 6 предусматривает административную ответственность за потребление без назначения врача наркотических средств или психотропных веществ в общественном месте, появление в общественном месте в состоянии, вызванном потреблением без назначения врача наркотических средств, психотропных веществ, их аналогов, токсических или других одурманивающих веществ, оскорбляющем человеческое достоинство и общественную нравственность, нахождение на рабочем месте в подобном состоянии. Те же действия, совершенные в течение года после наложения административного взыскания, являются уголовно-наказуемыми деяниями, которые квалифицируются по ст. 328-2 Уголовного кодекса Республики Беларусь и наказываются штрафом, или арестом, или ограничением свободы на срок до двух лет.

В настоящее время правоохранители продолжают «маковую» операцию. С начала проведения специальной программы «Мак» из незаконного оборота ими изъято свыше 40 кг растений мака и конопли, содержащих в своем составе наркотические средства. К административной ответственности за выращивание наркосодержащих растений на приусадебных участках привлечены более 40 виновных лиц.

Виктор Прокопович призывает всех жителей района проявить бдительность и обо всех ставших им известных фактах и лицах, причастных к незаконному обороту наркотиков, сообщить по телефону оперативно-дежурной службы Витебского РОВД: 8 (029) 513-53-93.

**Татьяна Диканова**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

ЭКАЛОГІЯ

# ЕСЛИ НЕТ ХОЗЯИНА

**В агрогородке Вымно Витебского района стоки канализации текут в озеро**

15 июля 2015 года жительница агрогородка Вымно Рыжкова Тамара Ивановна получила письмо за № Р-120 пл из “Управления жилищно-комунального хозяйства” Витебского областного исполнительного комитета, в котором сообщается, что в целях комплексного улучшения канализования агрогородка Вымно Витебского района вопрос о капитальном ремонте существующих объектов и строительстве новых будет рассмотрен при формировании областной инвестиционной программы на 2016 год.

Как известно жителям агрогородка Вымно и хорошо известно властям Витебского района, насосная станция и поля фильтрации существующей канализации выведены из строя и стоки с фекалиями прямо из трубы благополучно текут в одно из красивейших озер Витебского района - озеро Вымно.

Жителям агрогородка Вымно интересно знать какое решение будет принято начальником жилищно-коммунального хозяйства Витебского областного исполнительного комитета Дядёло Юрием Адамовичем по данному вопросу.

На выборах, состоявшихся 23 марта 2014 года, жители агрогородка Вымно оказали доверие Дядёло Юрию Адамовичу, выбрав его депутатом Витебского областного Совета депутатов по Бабиничскому избирательному округу № 5. Они в вправе ожидать от своего депутата положительного решения наболевшего вопроса.

А такие примеры есть. Помог же депутат областного Совета депутатов по Бабиничскому сельскому избирательному округу №5, начальник управления жилищно-коммунального хозяйства Витебского облисполкома Юрий Адамович Дядёло жильцам дома №1 посёлка Витьба Витебского района. Благодаря вмешательству народного избранника теплотрассу проложили от центра населенного пункта к дому, который “замерзал” все зимы, поскольку жилой дом “питался” теплом от исправительного учреждения. И то, что в результате доходило до потребителей, отнюдь не согревало.

**А.Адамов**

## АБ’ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты “Дзвінскі Ўзгорак“ паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты “Дзвінскі Ўзгорак“.***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***




ПРЭЗІДЭНСКАЯ КАМПАНІЯ

# ЛУКАШЕНКО УСТАЛ, НО НЕ УХОДИТ

**«Лукашенко устал, ему надо дать отдохнуть. Так будет лучше для всех», — заботливо сказала Татьяна Короткевич, получив 10 сентября в Центризбиркоме кандидатское удостоверение № 1.**

Бессменный президент Беларуси сам не единожды твердил, что наелся этой власти. Но документы на регистрацию подал, хотя и под самый занавес, будто спохватился: да у нас же выборы 11 октября!

Итак, за месяц до этой даты Центральная комиссия зарегистрировала действующего руководителя государства и трех его конкурентов, которых критики нынешней системы чаще называют спарринг-партнерами властей.

**Успешных стратегий у оппозиции пока не было**

В самой риторике Короткевич на регистрации чувствуется ответ недоброжелателям: вот, чтобы не упрекали, что у меня беззубая позиция. Но бомбить обладательницу кандидатского удостоверения № 1 все равно будут. Ее в лагере титульной оппозиции хотя и подвергли остракизму, но продолжают воспринимать как вызов.

Если смотреть шире, то речь идет о конфликте двух стратегий. Есть, условно говоря, путь Николая Статкевича (недавно помилованный политзаключенный провозгласил план жесткого противодействия режиму). И есть путь Короткевич (или, скорее, как считают многие, стоящего за ней лидера кампании «Говори правду» Андрея Дмитриева) — с опорой на лозунг мирных перемен.

Второй путь критики ГП трактуют как конформистский и даже предательский с точки зрения борьбы с диктатурой. Действующих лиц этой команды считают марионетками режима, видят за ними руку спецслужб.

В свою очередь, идеологи мирного пути говорят, что за счет реалистичной, а не радикальной стратегии, через повышение узнаваемости в массах и наведение мостов с частью правящего класса можно будет встроиться в процесс перемен, когда они начнутся. Полные же маргиналы, мол, так и останутся маргиналами.

На сегодня ни одна из стратегий не может похвастаться реальными завоеваниями. «Уставший» Лукашенко довольно легко решает задачу своего переизбрания в чисто технической плоскости. За минувшие двадцать лет власти хорошо постарались, чтобы оппозиция перестала быть реальным игроком на внутреннем поле.

И действительно, нынешнее размежевание в этой среде (которое иногда красиво называют переформатированием) идет де-факто лишь по степени радикализма риторики, выяснения, кто более нравствен. Хорошо, пусть те — не настоящие оппозиционеры, но на что способны вы, настоящие? Ноль у тех и других.

По-прежнему работает на власть и украинский фактор, который отпугивает обывателя от перспективы крутых перемен. Потому на Площадь 11 октября никто у нас пока открыто не зовет.

Задуманная же Статкевичем и соратниками серия уличных мини-акций хоть и выглядит вызовом для властей, стремящихся избежать особой жесткости, вряд ли серьезно изменит политический сюжет ближайших недель. Впрочем, и сами оппозиционеры видят задачу-минимум лишь в том, чтобы не дать вождю режима заработать сносную оценку этой избирательной кампании от Запада.

Ну а «усталый» Лукашенко убежден, что должен и впредь держать страну, чтобы ее не пустила прахом «пятая колонна».

**Реальных лидеров высветит время «Ч»**

Другой вопрос — сколько процентов выпишут милой даме. Не факт, что Лукашенко, мало склонный к тонкой игре на внутреннем поле, решился на некий эксперимент в духе управляемой демократии — с созданием ниши для карманной оппозиции, пропуском в парламент в следующем году толики отфильтрованных мягких оппонентов.

Впрочем, Дмитриев подчеркивает, что для ГП парламентские мандаты не самоцель, главное — быть в форме, оказаться востребованными к моменту, когда все начнется.

Да, а когда начнется? Главный враг Лукашенко — экономика. После выборов, скорее всего, придется идти хотя бы на полуреформы — просто чтобы дали кредиты. Белорусы будут вынуждены сполна заплатить за пока примороженный экономический кризис. Градус недовольства повысится.

Белорусская модель в нынешнем виде вряд ли способна продержаться больше нескольких лет. Дальше с большой вероятностью пойдут тектонические сдвиги.

В конце концов, остается открытым и вопрос о физическом ресурсе бессменного президента.

И вот когда «все начнется», народ, пожалуй, будет готов слушать не отфильтрованных кандидатов, а реальных лидеров. И тогда будет ясно, чья стратегия сработала. Или — ничья не сработала, и тогда ситуацию разыграют в свою пользу те, кто вообще сейчас в тени.

*(сокращено)*

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

# УЧАСТКОВЫЯ БУДУЦЬ БЕЗ УДЗЕЛУ АПАЗІЦЫІ

**Кампанія па назіранні за выбарамі "Права выбару-2015" падрыхтавала трэцюю прамежкавую справаздачу па выніках выбарчай кампаніі, якая ахоплівае этап фарміравання ўчастковых выбарчых камісій (УВК).**

Доўгатэрміновыя назіральнікі "Права выбару-2015" паведамляюць, што склад УВК сфарміраваны з беспрэцэдэнтна малым прадстаўніцтвам апазіцыі ў параўнанні з прэзідэнцкай выбарчай кампаніяй 2010 года, а таксама парламенцкай выбарчай кампаніяй 2012 года. У параўнанні з гэтымі двума выбарчымі кампаніямі і без таго мізэрнае прадстаўніцтва апазіцыі скарацілася яшчэ больш. Уключэнне ў склад УВК сябраў апазіцыйных партый і грамадскіх аб'яднанняў маюць адзінкавыя выпадкі.

Змены ў Выбарчы кодэкс, якія адбыліся ў 2013 годзе, не прадухілілі няроўнага допуску палітычных сіл да ўдзелу ў працы УВК. Абсалютнай большасці вылучаных ад апазіцыі прадстаўнікоў было адмоўлена ва ўключэнні ў склад УВК. Тым часам прадстаўнікі праўладных палітычных партый і арганізацый уключаліся ў 79-95% выпадкаў.

Судовае абскарджанне рашэнняў пра ўтварэнне УВК не з'яўляецца эфектыўным сродкам задавальнення законных інтарэсаў палітычных партый, паколькі суды не разглядаюць гэткія скаргі аб'ектыўна і ніколі не прымаюць рашэнні пра перагляд складу камісій. Пра гэта сведчыць шэраг судовых працэсаў, ініцыятарамі якіх стала Партыя БНФ, дзе пакуль ні ў адным з разгледжаных выпадкаў судовае рашэнне не было на карысць прадстаўнікоў апазіцыйнай партыі.

Адзін з каардынатараў кампаніі назірання "Права выбару-2015", каардынатар Руху "За Свабоду" па Магілёўскай вобласці Алесь Сілкоў паведаміе, што ад кампаніі назірання ў склад УВК (як ад палітычных суб'ектаў, так і шляхам збору подпісаў) вылучалася 374 прадстаўнікі.

"Нажаль улада ў чарговы раз пайшла на неўключэнне апазіцыі ў склад УВК. Гэта развязвае ёй рукі і не дазваляе апазіцыі кантраляваць, як адбываецца праца гэтых камісій. Усяго ад нашай кампаніі ў склад камісій патрапіла шэсць чалавек – 3 ад БСДП, 2 ад Партыі БНФ і 1 ад ГА БНФ "Адраджэньне". З усёй дэмакратычнай апазіцыі ў УВК прайшло ўсяго 32 чалавекі! Зразумейце, што ў параўнанні з агульнай колькасцю сябраў, якія будуць працаваць у камісіях – 66 941 чалавекі апазіцыя зноўку незаўважная!" – гаворыць Алесь Сілкоў.

Сілкоў таксама паведамляе што ў некаторых выпадках УВК не былі сфарміраваны ў максімальным складзе і прычын неўключэння ў склад гэтых камісій прадстаўнікоў апазіцыі не было. Таксама ні ў адной з УВК няма двух прадстаўнікоў апазіцыйных арганізацый.




НАША ЎЛАДА

# СПЛОШНАЯ ЧЕРТОВЩИНА ДЛЯ БЕЛОРУСОВ

**Постановление Совета Министров №666: «Очередное законодательное безумие – против импортеров и потребителей. Кто же изгонит беса из белорусских коридоров власти?».**

Белорусы ошеломлены постановлением правительства под «сатанинским числом». Отныне, следуя постановлению №666, практически каждую партию ввозимого товара импортеры должны отдавать на санитарно-гигиеническую экспертизу. Очевидно, покупателей ждет рост цен на заграничные товары.

«Постановление направлено на обнищание и так бедного населения...».

«Импортерам лучше приостановить свою деятельность и довести ситуацию до абсурда!».

И это лишь толика высказываний из взрывоопасной лавы обсуждений нововведения.

**«Власти создают угрозы жизни и здоровью обыкновенных людей»**

Пока импортеры выясняют, как им выживать в этих и так далеких от нормального существования реалиях, экономист Ярослав Романчук у себя в Фейсбуке на пальцах объясняет, что стоит за постановлением Совмина Беларуси под дьявольским номером 666 (от 6 августа 2015 года, вступило в силу 28 августа).

«Этот документ вводит обязательную дополнительную государственную санитарно-гигиеническую экспертизу продукции зарубежного производства. В этом документе, как в зеркале, отражается вся суть белорусской власти.

**Первое.** Правительство Беларуси нарушило правила Таможенного союза, введя барьер для товаров из третьих стран, растаможенных не в Беларуси. Фактически постановление № 666 ставит крест на свободе перемещения товаров в рамках ЕАЭС. Этот документ – типичная мера нетарифного регулирования торговли, которая противоречит сути Таможенного союза. Беларусь наверняка нарвется на встречные санкции со стороны России и Казахстана. Таким образом, Беларусь сама начала очередную торговую войну. Зачем? Ради неконкурентных, архаичных, неразворотливых белорусских госпредприятий?

**Второе.** Правительство Беларуси в очередной раз показало свое пренебрежение и презрение белорусским бизнесом. В нарушение Директивы № 4 «дьявольское» постановление № 666 было принято без консультаций с бизнес-сообществом, без диалога с импортерами и всеми теми, кто производит в Беларуси товары и услуги.

**Третье.** Правительство Беларуси заставляет производителей товаров и услуг повышать цены. Новая бюрократическая процедура

*(працяг на стар. №4)*

НАША ЎЛАДА

(пачатак на стар. №3)

– это деньги, время и нервы для бизнеса. Значит, это более высокие цены для потребителей.

**Четвертое.** Правительство Беларуси в очередной раз удобрило почву для коррупции. Выдача сертификатов, оценка их качества – это «золотое» дно для чиновников, контролеров и бюрократических «шлагбаумов».

**Пятое.** Правительство Беларуси поставило под угрозу импорт в Беларусь высокотехнологичных товаров, в том числе лекарств. Тем самым власти не только обрекают Беларусь на еще большее технологическое отставание, но и создают угрозы жизни и здоровью обыкновенных людей, которые не смогут купить в магазинах необходимые лекарства, препараты или компоненты.

**Шестое.** Правительство еще раз доказывает, что оно не является надежным партнером ни бизнеса, ни инвесторов, ни потребителей. Слова о поддержке малого и среднего бизнеса, неизменности правил игры, стабильности законодательства, открытости и повышении конкурентоспособности товаров – пустая болтовня и треп. В такой ситуации у серьезных кредиторов, естественно возникают сомнения о надежности партнера.

**Седьмое.** Правительство Беларуси еще раз доказало незнание экономической теории и истории. Малая открытая экономика в условиях рецессии, структурного и системного кризиса спасается исключительно благодаря резкому расширению сферы свободы. Постановление № 666 – это очередной поражение свободы, расширение власти распорядителей чужого.

**Восьмое.** Правительство Беларуси обрекает страну на еще более глубокую рецессию, еще более низкий уровень жизни, еще большую технологическую отсталость. Постановление № 666 от 6 августа – сплошная чертовщина для белорусов. Кто же изгонит беса из белорусских коридоров власти?»

**Два сценария**

На этот вопрос, заданный Ярославом Романчуком, может быть дан неожиданный ответ. Не исключено, что в роли экзорциста выступит Александр Лукашенко.

Все-таки в стране идет очередная политическая кампания под названием «президентские выборы». Раньше она сопровождалась ростом зарплат. Сегодня этого нет и близко: экономика, доведенная до ручки совместными усилиями Лукашенко и правительства, не позволяет.

Значит, надо искать более дешевые способы повысить популярность главы государства. И почему бы «злым боярам» не издать ради этого дурацкое постановление, которое «добрый царь» потом возьмет и объявит недействительным, набрав при этом очки в глазах электората?

Впрочем, это оптимистический сценарий. Есть и пессимистический: никто не будет отменять/изменять постановление № 666. Чем дольше длится правление Лукашенко, тем меньше он считает необходимым заигрывать с населением Беларуси. Сказано же вам: «Давайте поживем на своем, что в наших магазинах есть».

Совмин, издав непопулярный документ, принял на себя львиную долю негатива. Но «спасибо» за постановление № 666 надо, в первую очередь, сказать Александру Лукашенко. Правительство лишь выполнило его указание.

**Илья Горин**
**http://gazetaby.com**

КУПЛЯЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ!

# БЕЛАРУСКАЕ ЧУЧХЭ

**Заснавальнік паўночнакарэйскай кіроўнай дынастыі, «Вялікі Правадыр і Настаўнік» таварыш Кім Ір Сэн у 1950–1960-х гадах прапанаваў свайму вернаму народу дзяржаўную ідэалёгію пад назвай «чучхэ». Галоўным элемэнтам гэтай ідэалягічнай канструкцыі быў пастулят пра «апору на ўласныя сілы», курс на самаізаляцыю, эканамічную і палітычную аўтаркію. Ні да чога добрага гэта не прывяло, КНДР пэрыядычна зазнае голад, але народ задаволены і моцна любіць ужо трэцяга Кіма з слаўнай дынастыі.**

Гэтая канцэпцыя ўзгадалася на мінулым тыдні, калі тэлеканалы паказалі паездку Лукашэнкі па Берасьцейскай вобласьці. Галоўны мэсыдж ягонай камунікацыі зь мясцовым людам быў у пэўным сэнсе нечаканы. Звычайна ў ходзе выбараў палітыкі абяцаюць электарату залатыя горы. У ранейшыя часы і Аляксандар Лукашэнка задобрываў народ павышэньнем заробкаў і пэнсіяў. А цяпер — калі тое бачылі? — ён вядзе сваю агітацыйную кампанію пад лёзунгам самаабмежаваньняў. Прэзыдэнт фактычна заклікае беларусаў прыцішыць жаданьні, абмежаваць спажываньне, купляць беларускае, адпачываць на радзіме.

Лукашэнка нарэшце знайшоў цудадзейны рэцэпт выхаду з крызісу:

«Давайце пажывём на сваім, што ў нашых крамах ёсьць, і адпачнем гэтыя гады ў сябе ў Беларусі. Ня будзем вывозіць валюту... Мы не павінны купляць па імпарце тое, што вырабляем самі... Навошта даляр? Купіць імпартнае і паехаць у Эгіпет адпачыць? Перажывём. Вазьміце Белавескую пушчу — духаты ніякай, выдатнае паветра. Браслаўскія азёры. Азёр хапае, зьмялела трохі, але вады хапае. Адпачнем як-небудзь у гэты цяжкі час дома... Давайце наша, беларускае паносім! Будуць спажываць 10 млн чалавек і тыя 2 млн, якія праз нас пастаянна рухаюцца, дык і прадаваць за межы краіны застанецца зусім нічога — праблем ня будзе».

І загадаў, каб дапушчальны ўзровень імпарту на рынку быў 10%, бо трэба захаваць канкурэнцыю.

Можна ўзгадаць, што сам Лукашэнка ня вельмі кіруецца тымі парадамі, якія раздае суграмадзянам. Адпачываць любіць за мяжой. Катаецца на лыжах ці то ў Сочы, ці ў Аўстрыі, ці ў Сэрбіі (пакуль не ўвялі візавыя абмежаваньні на паездкі ў эўрапейскія краіны). Год таму ён сумясьціў працоўны візыт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты з адпачынкам. Памятаеце той гістарычны хакейны матч каманды прэзыдэнта Беларусі з «камандай вэтэранаў хакею Эміратаў», у якім Коля забіў два галы ў вароты суперніка?

Дый носіць Аляксандар Рыгоравіч зусім не беларускае. Якраз у той самы момант, калі ён заклікаў суграмадзян купляць беларускае, пільныя блогеры заўважылі на руцэ кіраўніка дзяржавы гадзіньнік маркі Vacheron Constantin Geneve коштам 15–20 тысяч даляраў. Нядаўна, 16 жніўня, калі Лукашэнка разам з сынам і камандай набліжаных асобаў выбіраў бульбу ў сваёй рэзыдэнцыі, на ім былі шорты амэрыканскай фірмы, ён быў абуты ў амэрыканскія «Кроксы». А яшчэ носіць рэмень маркі Hermes, і ровару аддае перавагу італьянскаму, а не вытворчасьці «Мотавела».

Калі ж разважаць з чыста эканамічнага гледзішча, то арыентацыя на ўнутраны рынак беларускую вытворчасьць не ўратуе. Эканоміка Беларусі мае высокую ступень адкрытасьці — доля экспарту тавараў і паслуг у ВУП перавышае 60%. Таму, нават калі забараніць імпарт і прымусіць усё насельніцтва купляць толькі беларускія тавары, гэта ня выведзе краіну з крызісу. Ужо ня кажучы пра тое, што эканамічная аўтаркія не дапамагла яшчэ ніводнаму народу. Паглядзіце на досьвед той жа Паўночнай Карэі. Так што ідэя чучхэ ў Беларусі, у адрозьненьне ад кавуноў у прэзыдэнцкім агародзе, наўрад ці прыжывецца. Ня той сацыяльны клімат.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

АДУКАЦЫЯ

# ПОЧЕМУ УЧИТЕЛЯ УХОДЯТ ИЗ ШКОЛЫ?

**Накануне нового учебного года Naviny.by поговорили с молодыми учителями, которые ушли из школы сразу после окончания распределения.**

**Инга Сакута**, работала учителем белорусского языка в Мостах:

«В 2008 году я окончила университет с красным дипломом и по распределению попала в среднюю школу в Мостах. Больше всего в работе учителем мне нравилось общаться с детьми, видеть, как они меняются. Я старалась уделять больше внимания ребятам из так называемых неблагополучных семей. Есть такой стереотип, что их невозможно научить, им ничего в жизни не надо. Но это не так. Просто эти дети запущенны, с ними, как правило, никто не занимается. Помню, одному из таких учеников я поставила 8 баллов за то, как он рассказал стихотворение наизусть. Гудел весь класс, мол, это первая восьмерка в его жизни, он никогда раньше ничего не учил. После этого было заметно, что он стал чаще готовиться к урокам. Конечно, талантливые ученики радуют особенно. Я готовила призера областной олимпиады по белорусскому языку, это была моя отдушина.

Самый негативный момент в работе учителя — это бумажная волокита. По сути, в Беларуси следят не за тем, как ты учишь детей, а как ты в журнале записал тему. Ислислово «старонка» ты сократил «стар», а не «стр», тебя могут лишить премии. Классного руководителя могут оставить без надбавки, если дети не питаются в школьной столовой. Кроме того, следят за средними показателями по успеваемости. Я не вижу, в чем смысл было вводить 10-бальную систему, если и сейчас, и раньше заставляли дотягивать оценки. Школе нужно, чтобы было как можно больше учеников с баллами от 6 до 10. Как и в советское время, главное — показатели.

Еще одна проблема — дети не тянутся к знаниям. В любом книжном магазине продаются сборники сочинений, решебники задач. Происходит отупление нации, а государство закрывает на это глаза. Дети теряют умение критически мыслить. Сложно заставить прочитать даже повесть, я уже не говорю про роман. В чем тогда смысл образования?

И, кроме того, преподаватели, конечно, недовольны зарплатами. Учителю начальных классов оплачивают ставку за класс из 30 человек. Получается, учитель может выделить ученику только 1,5 минуты за урок.

И, последнее — работа учителя не ценится ни учениками, ни родителями, ни государством. Школьник может тебя обозвать на уроке, и ты ничего не сделаешь. Родители чаще всего говорят, что их ребенок прав, перекладывают вину за его воспитание на школу.

Мне нравилась работа в школе, но при таких условиях я вряд ли когда-нибудь вернусь туда обратно».

**Алексей Кириенко**, работал учителем иностранного языка в Могилевском районе:

«По образованию я — историк, но в школе мне пришлось преподавать английский язык, потому что не хватало специалистов. Я окончил гимназию с углубленным изучением английского, бывал за границей, поэтому на предложение директора преподавать иностранный язык, согласился. Мне очень нравился мой коллектив, было много молодых специалистов. Правда, они, как и я, там временно: распределение отработали — и прощай, школа. Ученики мне тоже нравились, попроще, чем в городе. Ведут себя спокойно, в деревне у учителя больший авторитет. С другой стороны, учебная база в сельских школах гораздо ниже, чем в городских — не хватает техники и материалов, чтобы проводить интерактивные уроки.

Главная проблема для молодых специалистов в нашей системе образования — это распределение. По сути, ты не можешь выбрать, где работать. Вместо того, чтобы привлекать зарплатой, хорошими условиями труда, жильем, используют административный ресурс: мол, соглашайся на Могилевский район, иначе поедешь в Хойники.

Зарплата у меня была примерно 150 долларов — это на ставку, без классного руководства. И никаких перспектив, чтобы улучшить финансовое положение. У меня была коллега, которая всю жизнь отработала учителем, ушла на пенсию и получает теперь примерно те же 150 долларов. Поэтому пока зарплата учителя не будет равна средней зарплате по стране, молодые специалисты будут убегать из школы сразу после распределения. И еще об отношении к учителям. В райисполкоме мне сказали: гуманитариям жилье не положено. Я так и ездил два года на работу из Могилева.

А вообще белорусские учителя — очень зависимые от администрации люди. Профсоюзные комитеты вообще не работают. Учителей заставляют и двор мести, и ремонт в школе делать, и подписи за Лукашенко собирать. Откажешься – лишат премии, не продлят контракт. Принципиальных людей в этой системе очень мало.

Именно поэтому молодые люди вроде меня ищут другие перспективы сразу после окончания срока распределения».

*(сокращено)*

**Адарья ГУШТЫН**
**http://naviny.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенeнская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 16.09.2015 у 18.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.